Цана асобнага нумару 20 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 39. Вільня, Серада 24 Лістападу 1926 г. Год II.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

Адрэс Рэдакцыі й Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ПОЛАЦКАЯ 4. — (WILNO, POŁOCKA 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 12 да 7 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.

Цана абвестак:
на 1-ай старонцы 30 гр., 2 і 3-яй — 25 гр. і на 4-ай — 20 гр. за радок дробнага друку у ваднэй палосцы. Жадаючыя іншых абвестак павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

## Аб беларускай мове у нашых сьвятынях.

Беларускі Народ па рэлігіі дзеліцца перадусім на праваслаўных і каталікоў. Апрача тэрыторыяльных, штучных межаў дзеліць нас яшчэ вось гэты вал рэлігійны, узнесены калісь пераважна чужынцамі і найчасьцей для чужых нам палітычных мэтаў. Але гэты надзел на рэлігіі ня змог разьбіць еднасьці нашага нацыянальнага „я“, хоць нашым ворагам служыць і цяпер яшчэ сродкам да асыміляцыі беларусаў. Праз касьцёл нас палячымі, праз царкву нас хацелі зрабіць маскалямі. Дзеля таго, што гэта цёмная, замаскаваная быццам духам рэлігіі, акцыя і сёньня яшчэ вядзецца, мы, Беларусы, павінны зьвярнуць асабліваю ўвагу на гэта зьявішча ў жыцьці нашага народу.

Ня так даўно адзін Беларус, узгадаваны змалку ў Амэрыцы, прыехаўшы на Бацькаўшчыну, зайшоўся ў касьцёл у адной парафіі на віленшчыне. Якоя-ж было яго зьдзіўленьне і абурэньне, калі ўбачыў, што ў касьцеле, напоўненым выключна Беларусамі, молюцца, пяюць і слухаюць казаньня ў чужой польскай мове! Мы да гэтага зьявішча прывыклі і яно ўжо нам мала кідаецца ў вочы. Такім чынам цёмныя сілы зрабілі сваё, бо яшчэ сяньня шмат несьвядомых сялян называюць сябе палякамі, або расейцамі, залежна ад таго, у якой мове прымусілі яго маліцца.

Але клін трэба выгнаць клінам!

Праз царкву і касьцёл нам накінулі мову расейскую і польскую, гэтай-жа дарогай і сьпінем мы з сябе чужы налёт. Чакаць і спадзявацца аж нам увядуць нашы ўлады самі—няма чаго. Не, мы мусім усе згодна і станоўча дамагацца ўвядзеньня роднай мовы, нягледзячы на двуліцовае або выразна варожае становішча уладаў духоўных і сьвецкіх.

Што каталіком ад сваей духоўнай улады няма нічога добра спадзявацца, гэта мы бачым з *слоў Віленскага Каталіцкага Арцыбіскупа Ялбжыкоўскага*, якога нетактоўнасьць пасунулася да таго, што беларускай дэлегацыі за закід у мэморыяле, аб панаваньні нацыяналізму польскага ў Каталіцкай Духоўнай Сэмінарыі — загразіў... судом.

З надрукаванага ў гэным нумары інтэрвью нашага супрацоўніка з старшынёй Беларускай Хрысьціянскай Дэмакрацыі відаць ясна, што арцыбіскуп апрача рэпрэсыяў у межах сваей компэтэнцыі, нічога добрага не абяцаў. Сказаў дэлегацыі цэлае казаньне і гэтым хацеў разьвязаць набалеўшае пытаньне. Навет такое скромнае дамаганьне дэлегацыі, як увядзеньне беларускай мовы ў каталіцкай Дух. Сэмінарыі, Арцыбіскуп споўніць прыхільна не абяцаў. Цяпер можам сьмела цьвярдзіць, што ня гледзячы на ўсялякія салодкія слоўцы Арцыбіскупа ў адносінах да Беларусаў, усё-ж такі шыла нацыяналізму пачынае вылазіць.

Адносіны да ксяндзоў беларусаў і да дэлегацыі Б. Х. Д. выкрылі гэта як ня трэба лепей. Можна цяпер быць пэўным, што ўся вялікая работа ксяндзоў патрыётаў над ўвядзеньнем беларускай мовы ў касьцёл будзе цяпер, з прыходам Арцыбіскупа Ялбжыкоўскага, хітра і систэматычна паралізавацца.

Але проціў ветру не надзьмесься. Ведаюць добра нашы ворагі, што на шырокіх прасторах нашай Бацькаўшчыны Беларусі іх асобы па ліку гэта каплі ў моры. Вось гэты факт дае нам права спадзявацца, што *мы* пераможам. Дык куйма зялеза пакуль гарачае. Дамагаймася як найхутчэй увядзеньня беларускіх казаньняў і дадатковага набажэнства ў сваей роднай мове!

Праваслаўныя Беларусы ня гледзячы на няцікавы рэзультат дэлегацыі каталікоў, павінны выслаць сваю дэлегацыю да праваслаўных духоўных уладаў з такімі самымі дамаганьнямі!

---

†

Рэгент беларускага хору у м. Казлоушчыне, Слонімскага пав. і вучыцель рэлігіі у беларускай мове

**СЬВЯТАСЛАЎ АЛЯКСІЯВІЧ**

памер у канцы кастрычніка селета у м. Горадне.

Хай легкая будзе Яму беларуская зямелька!

---

## Памяці Сьвятаслава Аляксіявіча.

У вапошніх днёх кастрычніка, як дайшлі да нас толькі цяпер весьці, памер у м. Горадне, ад заражэньня крыві, былы дзяк праваслаўнае парахвіі ў м-ку Казлоўшчыне, Слонімскага пав., Сьвятаслаў Аляксіявіч. Сам родам із Украіны, скончыўшы яшчэ у 1912 годзе Юр'еўскі ўнівэрсытэт, выбіты вайною із свае жыцьцёвае калеі апынуўся ў дзяках. Будучы сам Украінцам, ён шчыра, дзе мог, памагаў нашаму селяніну Беларусу. За год прабываньня ў м. Казлоўшчыне арганізаваў мужчынскі беларускі хор, які таксама пяяў у царкве, у польскіх урадовых школах у вёсках Лявонавічы, Колкі й Нядавічы; выкладаў рэлігію (мусіць першы ў Слонімшчыне!) праваслаўным пабеларуску, за што ня мала сыпалася на яго ўдаваньняў ад розных „верноподданых“, як нашыя папы і іншыя.

За кожным крокам нябожчыка сачыла паліцыя, лічачы яго за гэную культурную працу комуністым. І шмат дзе засталася добрая памятка ў нашай вёсцы аб гэным чэсным справядлівым, чалавеку, які ўсёю душою жадаў, каб засьвяціла сонца нам у ваконца. Радуюцца нашыя непрыяцелі, пачуўшы аб яго сьмерці, але ня зьгінуць ягоныя словы: „*Хлопцы, трымайцеся сваге мовы!*“ Ня змогуць ужо нас розныя нашыя непрыяцелі і іхнія прыслужнікі—здраднікі Паўлюкевічы ды Воран-Кутылоўскія, прыйдзе час і зьгінуць гэныя крукі з нашае старонкі.

Хай лёгкай будзе Яму беларуская зямелька!

Вечны супакой баяніку за беларускаю мову! *Беларус.*

Друкуючы гэтыя гарачыя словы жалю свайго супрацаўніка, рэдакцыя ня можа не сказаць ад сябе некалькі словаў. Сьмерць сьв. памяці Сьвятаслава Аляксіявіча абняла смуткам ня толькі знаёмых Ягоных, але ўсіх Беларусаў, бо Ён быў нашым сябрам, пашыраючы разам з намі беларускі рух. Тым большаю прычыну мае смуціцца рэдакцыя „Сялянскае Нівы“, бо нябожчык Сьвятаслаў Аляксіявіч быў нашым супрацаўнікам, пашыраючы „Сял. Ніву“ паміж нашага народу.

Няхай-жа доўга жыве Ен у сэрцы нашага народу.

*Рэдакцыя „Сял. Нівы“.*

---

## Віленскі Р.-каталіцкі Арцыбіскуп і Беларусы Каталікі.

(Інтэрвью).

З прычыны бытнасьці ў Віленскага Каталіцкага Арцыбіскупа дэлегацыі ад Беларускай Хрысьціянскай Дэмократыі і даручэньня мэмарыялу аб патрэбах Беларусаў каталікоў, — наш супрацоўнік на днях адведаў старшыню Б.Х.Д. Гр. Карузу з мэтай дастаць інформацыі ў вышуспомненай справе. У мэморыяле пастаўлены наступныя дамаганьні:

1. У Віленскай Дух. Сэмінарыі безадкладна ўвесьці выкладаньне беларускай мовы, гісторыі беларускай літэратуры і гісторыі Беларусі.

2 Вызначыць Беларусам-каталіком у Вільні асобны касьцёл выключна для ўжытку Беларусаў.

3 Дапусьціць ужываньне беларускай мовы ў зносінах з духоўнай уладай нароўні з мовай лацінскай і польскай.

4 Выдаць загад духавенству, каб у бела-

Аб гэтым сваім гледзішчу СРСР меў гонар наказаць Ураду Польскай Рэспублікі ў сваёй ноце зь 5 красавіка 1923 г.

Ураду СРСР ведама таксама, што компэтэнцыі менаванай рады квэстыёнуе (не прызнае, пярэчыць) і ўрад Рэспублікі Літоўскай і ня лічыць ён сябе за маючага права да ацэны мотываў гэтых адносінаў літоўскага ўраду да менаванай рады. Урад СРСР адначасна ўважае, што падпісуючы трактат сёлета з 28 верасьня з урадам Літоўскай Рэспублікі зусім не маніўся паддаваць у сумлеў арт. 2 Рыскага Трактату, устанаўляючага граніцы паміж СРСР і Рэспублікай Польскай.

Пры гэтымм здарэньню саюзны ўрад яшчэ раз заяўляе, што нязьменным жаданьнем народаў СРСР ёсьць жыці ў міру й прыязьні з усімі іншымі народамі і шчырым імкненьнем іхнім ёсьць устанаўленьне прыязных адносінаў з Народам Польскім.

Прымеце, Пане Міністру, запэўненьні мае глыбокае пашаны.

(—) *Войкаў.*

Коратка кажучы, СРСР заяўляе, што апошнім літоўска-радавым трактатам не нарушаны 2 пункт Рыскага Трактату, але гэным пунктам абяцаецца толькі прызнаць літоўска-польскае паразуменьне, калі яно настане. Разам з тым СРСР ня прызнае цяперашняй літоўска-польскай граніцы.

Ніхто ня згодзіцца на заўсёднае трываньне цяперашніх ненормальных адносінаў паміж Літвой і Польшчай і, калі яны зацягнуцца доўга, дык за непаразуменьне СРСР можа абвінеціць Польшчу і „супярэчныя“ землі прызнаць Ліцьве.

СРСР у гэтай сваёй ноце да Польшчы мякка сьцеле, але можа стацца, што на гэтай мяккай пасьцелі будзе Польшчы мулка спаць.

Мусім яшчэ адцеміць, што бальшавікі, аддаўшы Польшчы Заходняю Беларусь, мелі-б помнець, што і ў Польскай Рэспубліцы ёсьць народы, а не адны Палякі, і ня ляпаць застарэлым стылем францускай дыплёмацыі „Польскі Народ“.

# Із Заходняе Беларусі.

### Выстаўка Заходняй Беларусі ў Вільні.

Нядаўна ў Віленскім ваяводзтве была арганізацыйная зборка ў справе выстаўкі Заходняй Беларусі і Ўсходняй Літвы, каторая мае быць у 1928 г. Па даўжэйшых спрэчках большасьцяй галасоў пастаноўлена, што выстаўка будзе ў Вільні. Далей дзеля дальшае працы зьвязанай з выстаўкаю абралі комітэт зь 10-ёх асобаў, катораму зборка даручыла ўтварыць дарогаю кооптацыі адпаведныя ворганы спаўняючыя.

Як ведама, раней гэта выстаўка мела быць у Варшаве.

## Лісты.

### З жыцьця нашае моладзі.

Вось ужо два гады, як у вёсцы Яковічы, Грыцэвіцкай вол. арганізавалася Ахвотніцкая Пажарная Каманда. З гэтага мамэнту шырокага хваляю паліўся сьвет культуры ў хворме тэатральных прадстаўленьняў. Знайшлося некалькі дзейных хлапцоў, каторыя перамаглі ўсе перашкоды із стараны цёмных людзёў, збудавалі сцэну ў пажарным будынку, зрабілі заслону і з запалам пачалі вучыцца ролі. За гэты час шмат чаго было згуляна. Так напр., гулялі: „Чорт і баба“ Фр. Аляхновіча, „Модны шляхцюк“ Каганца, „Па Рэвізыі“ Крапіўніцкага, „Дзядзька Якуб“ Кудзелькі, „П. С. Х.“ Сучаснага, „Гандаль XX веку“ Конскі партрэт“ Я. Родзевіча, „Прымакі“ Я. Купалы“, „Мікіцін лапаць“, „Птушка шчасьця“ Аляхновіча, „Пан міністар“ Аляхновіча. „Стараста“ і шмат яшчэ чаго, усяго й ня ўспомніш. Із хлапцоў найболей працы палажылі Я. і В. Дзямідчыкі, браты Мокрэцкія і інш. Азначаюцца сваёй ігрой (гульнёй) Язэп Дзямідчык і Эміля Якубоўская. Вялікаю карысьць дае маладым артыстым-аматарам вучыцель пачатковай школы п. І. Лобко. Памагае ім сваёю радаю, грымам, кіраўніцтвам і г. д. Паміж іншым, мушу адзначыць цікавы факт: мясцовы земляўласнік Еленскі, вельмі прыхільна адносіцца да культурнай працы янавіцкіх пажарнікаў. На кожным прадстаўленьні абавязкава бывае сам, навет часта і сям'ю, родных знаёмых прывозіць з сабою на вечарыны. Памог паставіць пажарны будынак, у вагуле з ахвотаю йдзе на ўсё, што патрэба ў гэтым кірунку.

Астаецца пажадаць янавіцкай моладзі, каб у сваёй культурнай працы не слаблі, а шпарка-бы йшлі ўперад сеючы гэткім парадкам родную беларускую свядомасьць!

*Недалёкі Сусед.*

### Да Рэдакцыі газэты „Сялянскае Нівы“ жыхароў Ражанскае воласьці, Косаўскага пав.

У № 34 „Сялянскай Нівы“ з 21-X-1926 г. надрукавана было ў лісьце, што былы войт воласьці Ражанскае, Сьцяпан Бусяцкі, за растрату 700 залатовак зьлішнім адданы пад суд. Аднак, як выясьнілася, пад суд ён і дагэтуль не адданы, дзеля таго, што запэўніў валасную раду (старшынёю якое яго родны брат Уладзімер Бусяцкі), што ён растрачаныя гэныя грошы верне ў вал. касу спаўна (але... без працэнтаў напэўна). І вось валасная рада спакайнюсенька чакае таго часу, калі „пан“ былы войт надумаецца заплаціць растрачаныя грошы. А калі-б растраціў гэтакую суму солтыс, то даўно ўжо сядзеў-бы за кратамі ў „więzieniu“. Але апрача гэтага цікава тое, што з панам войтам у нас і абходзяцца папанску: як ён, гэты самы Сьцяпан Буцяцкі, папаў пад суд у іншых валасных справах, то й 600 залатовак каўцыі яму знайсьці было лёгка і цяпер на свабодзе, валасных грошай не спаганяюць.

А калі наш згалелы селянін не заплаціць падатку да назначанага тэрміну, то зь яго бяруць па 10 працэнтаў у месяц кары, гэта значыць 10 гр. ад залатоўкі (ад падатку грунтавага) дый зьбіраюць падаткі ў нас гэтакім парадкам.

Пану войту стала цяжка зьбіраць самому залеглыя падаткі (дагэтуль зьбіраў сам), дык, парадзіўшыся зь кім знаў, наняў сэквэстратара, жыхара мяс. Ружаны — Пётру Ляшчынскага.

Гэты саламяны панок Ляшчынскі дае тэрмін толькі на дзьве гадзіны платніку, а як не заплаціў яму, дык ён піша пратакол, у які ўпіша, залеглыя грошы, працэнты, ды яшчэ 1 залатоўку сэквэстрацыйнага збору, які йдзе няма ведама куды. Апрача гэтага гэты самы Ляшчынскі хадзіць пехатою ня можа, а карыстаецца хурманкаю, ды навет зусім бясплатна, што ўжо перавышае закон. Ды часта, вязучы гэтага панка селянін можа паламаць колы, бо дарогі ў нас, павятовыя і валасныя дзякуючы валасной радзе не „ў парадку“. Многа яшчэ непарадкаў у нашай воласьці, але ўсіх зразу ня будзем апісваць.

Культура й асьвета ў нас атсутна, ды яшчэ войт дэкляряцыяў школьных падпісваць ніяк ня хоча, вымагае мэтрыку аб нараджэньні кажнага дзіцяці, бо ён добра ведае, што рыбу лавіць шмат лягчэй у мутной вадзе, чым у сьветлай. Але загляне сонца і ў наша ваконца!!!

Далей ідуць подпісы.

# НАВІНЫ.

**— Інтэрвэнцыя пасла Ярэміча ў справе „Сял. Нівы“.** Дзеля таго, што на некаторых поштах провінцыянальных даецца заўважыць неакуратнае аддаваньне „Сял. Нівы“ яе падпішчыкам, пасол Ярэміч зьвярнуўся да прэзэса Віленскай Паштова-Тэлеграфнай Дырэкцыі п. Паповіча з дамаганьнем спыніць гэта крыўднае для Беларусаў зьявішча. П. Паповіч абяцаў заняцца гэтай справай і вінаватых кіраўнікоў поштаў штрафаваць па 10 зл. з кожнага прапаўшага нумяра.

У сувязі з вышэйшым Адміністрацыя „Сял. Нівы“ просіць сваіх падпішчыкоў паведамляць яе аб неакуратным выдаваньні на поштах нашай часопісі.

**— Зьезд літоўскіх земляробаў.** 23 лістаадбыўся зьезд літоўскі земляробаў Вілен. ваяводзтва. Зьезд разглядаў гэтакія пытаньні: 1) арганізаваньне земляробскіх гурткоў і саюзу літоўскіх земляробаў, 2) закладаньне пазычковых таварыстваў, 3) закладаньне коопэратываў і 4 вольныя пропозыцыі ў аканоміцкіх справах.

**— Угодкі д-ра Яна Басановіча.** Літоўскае грамадзянства сьвяткуе сёлета ў лістападзе 50 ўгодкі навуковай і грамадзкай дзейнасьці і 75 ўгодкі радзінаў вядомага літоўскага навучонага і дзеяча д-ра Яна Басановіча. Літоўскае Навуковае Т-ва ў Вільні адзначыла гэтыя ўгодкі ўгодкавым вечарам, каторы быў 23-га лістапада ў залі Купецкага Клюбу. На вечарыне былі й запрошаныя прадстаўнікі грамадзянства беларускага.

**— Епіскоп Антоні пераходзе на вунію?** „Goniec Wil.“ наказуе, што праваслаўны епіскоп Антоні, раней Віленскі, а цяпер Крамянецкі выказаў жаданьне перайсьці на вунію і быццам ужо гутарыў аб гэтым з каталіцкаю ўладаю. Калі гэта праўда, дык праваслаўныя маюць задумацца, як бараніць сваю царкву. Здаецца, што накшага выхаду няма, як стаць на нацыянальны беларускі грунт.

**— Рашчэп у Лізе сьв. Казімера.** Надовячы кала 200 дробных гандляроў мясам пакінулі т. зв. „Работніцкаю Лігу сьв. Казімера“ і перайшлі да т. зв. „Хрысьцянскіх профэсыянальных саюзаў“. Ці варта было вылучацца, каб прылучыцца да т. зв. „хрысьцянскага саюзу“, бо „абое—рабое“, як уваднэй, так і ў другой арганізацыі вера ёсьць аружжам палячэньня.

**— Арышт рэдактаркі „Vilniaus Aidas“** Па загаду прокурора арыштавана Марыя Жукоўская, рэдактарка літоўскай газэты „Vilniaus Aidas“. Газэта гэтая ў апошнім часе была не-

„Хай вочы высмаліць, як квету
[ў лілы слабай,
„Але і крыж мой спапяліць хай
[папарадку!

Чарговы верш *„На шляху“* (ст. 84), адзначаецца сваім шчырым лірызмам, дэлікатнасьцяй настрояў, моцай экспрэсыі і бязьмежным, беларускім сумам.

Далей трэ' спыніцца над гэткімі вершамі як: *„На вуліцы“* (ст. 87), які па хворме і зьместу зьяўляецца характэрнай імпрэсыяй у духу сучаснага модэрнізму, створанага хворымі, перачуленымі нэрвамі вялікага места; *„Вечар“* (ст. 88) — кружаўная імпрэсыя, поўная пачуцьця і спакойнага безнадзеяньня; вось для прыкладу яе пачатак:

„Мой вечар, знаю, блізка, недалёка —
„Ёсьць раніца—павінен й вечар быць,
„Але ня шчэзну я з-пад долі вока —
„Дзень, вечар, ноч, а трэба, буду
[жыць...“ і г. д.

У вершы *„Нашто?“* (ст. 90), знаходзім цікавы завет, які дае пясьняр наш сваім братом:

„Ідзі праз сьвет з вачмі адкрытымі,
„Ў грудзёх гадуй, як сталь, і моц
[і гарт,
„Глядзі ўвакруг свабодным сокалам,
„І крэпка знай, чаго ты ў сьвеце
[варт!“

Верш *„Сьмейся!...“* (ст. 90) трэ' залічыць да няўдалых, дзякуючы яговаму лішне яскраваму натуралізму і перагружаннасьці патэтычнымі зваротамі і тэрмінамі; верш *„Ўвесь да дна...“* (ст. 93)—характэрны сваім пэсымізмам, едкай ironiяй і цынічнымі ноткамі; верш *„Мая вера“* (ст. 96)—ёсьць аканчальным сьцьверджаньнем атэізму поэты, які, пасьля сьцягу іранічных зваротаў на тэму рэлігіі, кажа ў канцы вершу:

„Ў народ і край свой толькі веру,
„І веру ў самога сябе!“

Чарговы верш *„Песьняй толькі“* (ст. 96),— адзначаецца лірызмам моцай пачуцьця і пявучасьцяй; *„Першыя песьні“* (ст. 97), пісаныя яшчэ ў 1906 г., відаць, мелі быць прадмовай да першага зборніку поэты п. н. *„Жалейка“*; верш *„Песьня“* (ст. 98) зварочуе ўвагу сваёй музыцкасьцяй, гучнасьцяй, адумысловым выбарам словаў і скочнасьцяй; урэсьце верш *„Я казак— не казак...“* (ст. 102) чаруе шырынёй размаху і ўдалствам; вось яго пачатак:

„Я казак—не казак,
„Што нагайкай сьвісьціць,
„А казак, што калісь
„Знаў як волю любіць!
„Што гуляў за Дняпром
„Ад зары да зары,
„Ў вольнай Сечы грымеў,
„Як парогі ў Дняпры“.

Канчае гэны адзьдзел вялікі, харошы верш, жыцьцяпіснага характару п. н. *„Мая навука“* (ст. 103). У ім Купала кажа аб тым, як яму „мудрасьці кніжнай ня даў Бог пазнаці“, бо „бацька ня мог даць раскошаў такіх“, як сыстэматычная навука ў школе, дык поэта наш рос самавучкай, а складаць песьні ўчыла яго беларуская прырода, „беларускі абшар“; дык няма дзіва, што поэта, перамогшы ўсі гэтыя злыбяды і зрабіўшыся слаўным песьняром, — знае сабе цану і канчае верш гэткімі гордымі словамі:

„Так, іншай ня знаўшы навукі
[і школы,
„Ў пацёмках шукаў і знайшоў божы
[дар;
„Цяпер маймі скарбамі — думы —
[саколы,
„Цяпер беларускай я песьні ўладар“.

Канчаючы гэтым агляд гэтага адзьдзелу, адцемім, што ён ёсьць, з боку паказальнага, найцэннейшым ува ўсім зборніку, бо найлепей выяўляе тую высокаю роўнь артызму, глыбіню думкі і багацьце хвормаў і сюжэтаў, якія асягнуў наш поэта.

Варта тут яшчэ падчыркнуць напасьледак тое, што Купала, у проціліжнік Якубу Коласу,— ня губляючы лучнасьці ізь сьветам сялянскім, патрапіў аднак вырабіць у сабе псыхіку інтэлігэнта ў поўным значэньні гэтага слова, і ёсьць цяпер гэткім-жа перачуленым, нэрвовым дзіцянём вялікага места, здольным да найдалікатнейшых перажываньняў як і кожны заўсёдны жыхар места зь інтэлігэнтных сфэраў.

*Я. Сьветазар.*

